# Голас Радзімы

№ 39 (2181)
27 верасня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Сінявокі лён — сімвал Беларусі. Гэты «паўночны шоўк» вякамі прыносіў рэспубліцы і славу, і добрыя прыбыткі. Прыносіў, бо некалькі дзесяткаў гадоў назад па ўказцы нечых «разумных» галоў пасевы яго значна скараціліся. І толькі цяпер справа пачала мяняцца да лепшага: многія гаспадаркі плануюць у бліжэйшы час адвесці пад лён і значныя плошчы, і лепшыя землі.

А пакуль такі пейзаж — пукі лёну на полі—сустракаецца не так часта.

Фота С. КРЫЦКАГА.

*НАДЗЕІ САВЕЦКАГА ПЕНСІЯНЕРА*

# ЗАКОН, ЯКОГА ЎСЕ ЧАКАЛІ

НАРЭШЦЕ закон, аб якім апошнім часам столькі гаварылася і пісалася, аб які зламана столькі коп'яў, прыняты і з кастрычніка 1990 года ўступае ў жыццё. Уступае паэтапна: першымі новы заканадаўчы акт выкарыстаюць інваліды і ветэраны вайны, затым (з 1 студзеня 1991 года) — усе, хто знаходзіцца ў межах мінімальнага сацыяльнага забеспячэння, з 1992 года — астатнія.

Узнікае пытанне: чаму не адразу і не ўсім?

Адказ просты, як двойчы два: бюджэт дзяржавы, абцяжараны амаль 100-мільярдным дэфіцытам, не ў стане прафінансаваць адразу ўвод у дзеянне новага Закона аб пенсіях. Але ў выніку доўгай знясільваючай барацьбы з фінансавымі бюракратамі народным дэпутатам усё ж удалося дадаткова «выбіць» амаль 30 мільярдаў рублёў. Такая, вобразна кажучы, «прыбавачная вартасць» новага закона аб пенсійным забеспячэнні. А ў суме з тымі расходамі, якія дзяржава несла раней, гэта звыш 100 мільярдаў рублёў, ці каля 14 працэнтаў нацыянальнага даходу СССР (доля, блізкая да ўзроўню многіх развітых краін). У бюджэце дзяржавы выдаткі на гэтыя мэты складуць прыкладна пятую частку ўсіх расходаў. Адсюль—і паэтапнасць.

Праект закона і яго канчатковы варыянт істотна розняцца. І гэта не дзіўна: у працэсе ўсенароднага абмеркавання выказана больш за 500 тысяч заўваг і прапаноў. Свае карэктывы ў законапраект унеслі народныя дэпутаты СССР. Характэрна, што за нядоўгую гісторыю галоснасці ў Вярхоўным Савеце СССР упершыню па аднаму і таму ж пытанню выступіла 1 700 дэпутатаў (амаль 80 працэнтаў спісачнага складу парламента), што таксама гаворыць аб актыўным усприманні грамадствам пенсійнай праблемы.

З агульнай колькасці прыняўшых удзел у абмеркаванні законапраекта 75 працэнтаў (што, дарэчы, пацвярджаецца і данымі сацыялагічных даследаванняў) адобрылі і падтрымалі асноўныя палажэнні будучага, а цяпер ужо існуючага закона. У той жа час у выніку заўваг, прапаноў і дапаўненняў давялося ўнесці змяненні больш чым у палавіну артыкулаў закона.

Што цікавага ў новым законе?

Перш за ўсё, нарэшце ліквідуецца той вялікі разрыў у матэрыяльным забеспячэнні пенсіянераў і працуючых, які ўтварыўся з-за шматгадовай «нерухомасці» ставак вылічэння пенсій; больш дакладна, чым раней, вытрымліваецца прынцып прапарцыянальнасці ў матэрыяльным забеспячэнні розных сацыяльных груп і катэгорый насельніцтва. Гэта значны прагрэс, калі мець на ўвазе, што ў краіне на працягу многіх гадоў назначэнне пенсій для гэтых груп рэгулявалася амаль 900 нарматыўнымі актамі.

Але самае галоўнае тое, што закон уводзіць цвёрдую адпаведнасць узроўню пенсій колькасці і якасці працы. Іншымі словамі, чым лепш чалавек працаваў да выхаду на пенсію і чым больш зарабляў, тым больш яму належыць сацыяльнае ўзнагароджанне па старасці.

Перш як было: колькі б рабочы ці служачы ні атрымліваў, больш чым 120 рублёў (ці 132 пры ўмове, што ўвесь стаж, неабходны для назначэння пенсіі, ён зарабіў на адным прадпрыемстве ці ў арганізацыі) яму не назначаць. На працягу многіх дзесяцігоддзяў гэта была мяжа ў пенсійным забеспячэнні большасці савецкіх людзей.

З уступленнем у сілу новага закона межы заработнай платы, што ідзе ў залік пры назначэнні пенсіі, як і межы самой пенсіі, істотна рассоўваюцца. Пры гэтым хацелася б адзначыць, што новы пенсійны мінімум як пажарную меру Вярхоўны Савет СССР прыняў, калі яшчэ не было ні новага закона, ні яго праекта. Народныя дэпутаты практычна адзінадушна вырашылі ўраўняць яго з мінімумам заработнай платы. І ў тым, і ў другім выпадку ён роўны сёння 70 рублям.

Механізм налічэння пенсіі задуманы з такім разлікам, каб аўтаматычна рэагаваць на ўсе змены ў аплаце працы, якія адбываюцца цяпер і будуць адбывацца ў далейшым.

Як, якім чынам механізм гэты будзе дзейнічаць? Вельмі проста: калі сённяшні мінімум у аплаце працы (нагадаем — 70 рублёў у месяц) узрасце, скажам, да 100 рублёў, то «аўтаматам» следам за ім да такога ж узроўню ўзнімецца і мінімальная пенсія. Добра гэта ці дрэнна? Вядома, добра. Асабліва, калі мець на ўвазе нарастаючыя ў краіне інфляцыйныя працэсы.

З улікам гэтага моманту ўстаноўлены і крайне дапушчальныя ўзроўні, што вызначаюць, з аднаго боку, максімум таго, што пры назначэнні пенсіі паўнасцю ідзе ў залік (а гэта — 70-рублёвы мінімум заработнай платы ў 4-разовым павышэнні); з другога— максімум таго, што ўвогуле можа быць прад'ўлена да разгляду пры налічэнні пенсіі (тут той жа 70-рублёвы ўзровень, але ўжо ў 10-разовым павелічэнні). У практычным плане гэта азначае, што калі заўтра мінімальная заработная плата ў краіне вырасце, скажам, да 100 рублёў, то максімальная сума, што ідзе ў залік без паніжаючага каэфіцыента, узрасце з 280 рублёў да 400, а ўвогуле сума, што ўлічваецца пры налічэнні пенсіі, — з 700 да 1 000 рублёў.

Такім чынам, кожны раз, калі будзе адбывацца павелічэнне заработнай платы, адначасова з ёю будзе ўзрастаць і пенсія.

Закон устанаўл... новую, больш прагрэсіўную базавую стаўку налічэння пенсіі — 55 працэнтаў (было 50) ад сярэдняга заработку за любыя пяць гадоў з апошніх 1... Працоўны стаж, неабходны для г... застаецца ранейшым: у мужчын — 25 гадоў, у жанчын — 20. Зразумела, некаторыя прафесіянальныя групы, напрыклад, шахцёры, металургі, жанчыны-механізатары і іншыя, як і раней, будуць карыстацца льготамі.

Адно з самых значных (з матэрыяльнага пункту гледжання) новаўвядзенняў пенсійнага заканадаўства заключаецца ў тым, што кожны год дадатковага (да асноўнага) працоўнага стажа раўназначны 1 працэнту прыросту да базавай стаўкі вылічэння пенсіі. Такім шляхам яна можа ўзрасці да 75 працэнтаў. Пры абмеркаванні закона практычна ўсе, хто прымаў у гэтым удзел, звярталі ўвагу на гуманнасць і справядлівы характар падобнай ацэнкі працоўнага ўкладу кожнага на карысць грамадства.

У працэсе падрыхтоўкі закона вострыя дыскусіі ўзніклі вакол праблемы пенсійнага ўзросту: некаторыя вучоныя, спасылаючыся на ўзросшую сярэднюю працягласць жыцця, рэкамендавалі павысіць узроставы парог, неабходны для назначэння пенсіі. Не намнога: мужчынам — на 5 гадоў (да 65), жанчынам — 2—3 гады (да 57—58 гадоў). На павелічэнне пенсійнага ўзросту «працавала» і замежная практыка: у ЗША, Канадзе і Японіі, напрыклад, мужчыны і жанчыны выходзяць на пенсію ў 65 гадоў. Былі, аднак, прапановы і процілеглыя: знізіць пенсійны ўзрост. Разгледзеўшы тыя і іншыя, народныя дэпутаты вырашылі пакуль нічога не мяняць, захаваўшы ранейшыя ўзроставыя межы выхаду на пенсію — 60 і 55 гадоў.

Заслугоўвае ўпамінання і такі шматзначны факт: калі раней практычна ўсе сродкі, неабходныя на сацыяльнае забеспячэнне і сацыяльнае страхаванне, выдзяляла дзяржава (праз свой бюджэт), цяпер яна да гэтага не будзе мець ніякага дачынення. Неабходныя для гэтых мэт грашовыя рэсурсы органы сацыяльнага забеспячэння і страхавання савецкіх грамадзян будуць чэрпаць з Пенсійнага фонду СССР, што засноўваецца ў краіне і ўяўляе сабой самастойную фінансава-банкаўскую сістэму, крыніцай грашовага напаўнення якой будуць служыць прамыя адлічэнні ад даходаў прадпрыемстваў, арганізацый і гаспадарак.

**Аляксандр ДЗЕДУЛ.**

## КЛОПАТ АБ САСТАРЭЛЫХ



**Добрымі памочнікамі інвалідаў, удзельнікаў вайны, сямей загінуўшых стаў кааператыў, створаны пры Несяцкім сельскім Савеце Клічаўскага раёна. Прычынай для яго арганізацыі паслужылі праблемы з палівам, за якім часта звярталіся ў мясцовы савет ветэраны вайны і працы, састарэлыя. У вёсках сельсавета іх пражывае каля трохсот чалавек, многія адзінокія. Як ім памагчы! Тады па ініцыятыве старшыні сельскага Савета Валерыя Шыдлоўскага і быў створаны кааператыў.**

**Пайшлі кааператыву насустрач і мясцовыя саўгасы «Добраахвотнік» і «Несята», перадаўшы ў арэнду грузавую аўтамашыну і трактар «Беларусь», за кошт сродкаў Савета купілі дзве бензапілы. Акрамя дастаўкі паліва, кааператыў падрадзіўся весці санітарную высечку лесу, каб дадаткова нарыхтоўваць дровы. З аднаго боку — дапамагчы лясніцтву, у якога не хапае рабочых рук, з другога — дадатковы рэзерв паліва. Па заяўках пенсіянераў дровы завозяцца кожнаму непасрэдна ў двор. Для адзінокіх старых, у якіх невялікая пенсія, выдаецца па трыццаць рублёў дапамогі з бюджэту Савета. Па просьбе вяскоўцаў за невялікую плату кааператары могуць і распілаваць дровы, прывезці сена, скласці яго ў стог, узараць агарод.**

**НА ЗДЫМКАХ: старшыня Несяцкага сельскага Савета Валерый ШЫДЛОЎСКІ (справа) гутарыць з пенсіянерам Міхаілам ДОЎБНЯМ; нарыхтоўка дроў па заказах насельніцтва.**

**Фота М. ЖАЛУДОВІЧА.**



## *ПРАЧЫТАЎШЫ Ў ВАШАЙ ГАЗЕЦЕ...*

Паважаная рэдакцыя!

Дзякую за артыкул у нумары 34 вашага тыднёвіка аб перадачы Вільні і Віленшчыны Літве сталінскай камарыляй. Скуткі гэтай перадачы, мы, віленскія беларусы, адчуваем на ўласнай скуры, асабліва з дарваннем да ўлады саюдыцкай хунты фон Ландсберга. Афіцыйна абвешчаны прыярытэт «карэннай» нацыі (нацыя, якая стала «акаранілася» ў Вільні толькі ў 60—70-я гады), дзеячы якой дабраліся да Вільні за 200—300 кіламетраў з хутароў Жмудзі і лясоў Аўкштайтыі. Паўсюль выкараняецца ўсё славянскае. Нават назвы вёсак паперайменоўвалі, не кажучы аб вуліцах. Аднекуль з'явілася назва Вільнюс. Чамусьці і ў беларускім друку так пішуць. Навошта? Вільня — яна і ёсць Вільня. А літоўцы хай пішуць сабе, як хочуць. Бо ж яны не пішуць Гародня, Астравец, Іўе, а пішуць Gardinas, Astravas, Vija і гэтак далей. То нашто нам крыўляцца? Трэба пісаць так, як адвечна прынята: Коўна, Аліта і г.д. І не Масква вынішчала беларускасць у Віленскім краі, а новыя гаспадары — Снечкусы, Палецкісы, Грышкявічусы і г. д. Іменна з іх удзелам была знішчана беларуская інтэлігенцыя ў Вільні, закрыты беларускія школы, іменна яны дапамаглі апалячваць віленскіх беларусаў пасля вайны. І дзіва: людзі, што гавораць, спяваюць, танцуюць па-беларуску, сталі лічыць сябе... палякамі (бо баяліся за сябе і за сваіх родных). А цяпер адкрыта беларусаў і Беларусь абзываюць у літоўскім друку—галоднымі, адсталымі, акупантамі, мігрантамі і гэтак далей.

Чаму ж маўчыць грамадскасць Беларусі, Урад? Бо фон Ландсберг і К⁰ заявілі, што не было Савецкай Літвы, аднаўлена Канстытуцыя 1939 года, дык і граніцы павінны быць тыя ж — бяз Вільні і Мэмеля. Славянскае насельніцтва не жадае быць людзьмі другога гатунку, звяртаецца ў Вярхоўную Раду БССР аб дапамозе, аб уз'яднанні з Беларуссю, а значнай якой падтрымкі не атрымлівае. Чаму б у Мінску, у другіх гарадах Беларусі не правесці мітынгі з патрабаваннямі далучэння Вільні і Віленшчыны, чаму б часцей не заяўляў Урад аб тым, а то былы Беларускі музей у руках саюдысцкіх драпежнікаў, будынак беларускай гімназіі не аддаюць Беларускаму таварыству, пасмейваючыся ўбок у адказ на нясмелыя просьбы дзеячаў «Сябрыны», што так укленчваюць перад «Саюдысам» (дарэчы, як і некаторыя кіраўнікі БНФ), а маюць з таго дзірку ад бубліка.

Не, просьбамі хунту не возьмеш. Трэба рашуча заявіць аб гэтым. Літоўцы, вяртайцеся да сваіх граніц «свабоднай» Літвы да 23.8.39. Хопіць вам і Коўна з хутарамі. А то ж вельмі нахабна вядуць сябе новаяўленыя сталінскія каланізатары ў Віленскім краі, не чуючы належнага адпору. Беларусы з Беларусі! Будзьце разам з вашымі віленскімі братамі! Не дазваляйце таптаць хутаранскім ботам нашу годнасць, нашу самабытнасць! Бо калі нахабнік не бачыць адпору, ён становіцца яшчэ больш нахабным. Мо пара ўжо і спыніць гэту жабу ў каляіне?! Вельмі прыемна было б, каб ваша газета выказалася па гэтай праблеме больш акрэслена. А фактаў знявагі, нават праследаванняў беларусаў новымі «суседзямі» маю шмат.

З павагай

**Міхась РАСЕВІЧ.**

г.Вільня.

**КАК РЕШАЕТСЯ ВОПРОС О СОБСТВЕННОСТИ**

# КРЕСТЬЯНСКИЙ СОЮЗ ПРОТИВ КОЛХОЗОВ

Вопрос о собственности на землю — один из наиболее важных сейчас для Советского Союза. Приоритет отдается общественной собственности, и пока земля предоставляется крестьянам только в пользование. Лишь в будущем, по мнению правительства, возможно будет наделение крестьян землей и полным правом ею распоряжаться.

Против проведения такой политики в своей республике выступает недавно созданный на учредительной конференции арендаторов, фермеров, крестьянских хозяйств и кооперативов «Крестьянский союз Белорусской ССР», неформальное демократическое движение, объединяющее 200 фермерских хозяйств и полторы тысячи арендных коллективов.

По мнению председателя правления Крестьянского союза кандидата экономических наук Константина Ермоленко, СССР в состоянии совершить рывок и насытить рынок продовольствием в течение двух-трех лет, в случае если крестьянин станет реальным хозяином земли и сможет распоряжаться результатами своего труда.

— Основное препятствие этому — командно-административная система, — считает Константин Ермоленко. — На сто тысяч сельских механизаторов в совхозах и колхозах Белоруссии приходится сто тысяч управленцев. Но и у крестьян за 70 лет Советской власти сложилась психология наемного работника, поэтому главное — убедить их в необходимости радикальных изменений. Мы не только пропагандируем свои идеи. Сейчас повсюду возникают индивидуальные и семейные крестьянские хозяйства. Арендаторы и фермеры постоянно сталкиваются с трудностями в приобретении техники, семян, специальной литературы, у них нет правовых гарантий и юридической защиты. Помогать им должен наш союз. Мы добиваемся принятия закона о кооперативах и фермерских хозяйствах, без которого им невозможно преодолеть сопротивление на местах. Необходимо, чтобы технику, оборудование, запчасти, удобрения фермеру продавали по тем же ценам, что и колхозам, а не в три раза дороже.

Кстати фермер платит за аренду земли до 1 000 рублей за гектар, а колхоз —300-500 рублей.

Пока Крестьянский союз живет за счет добровольных взносов и на деньги спонсоров. Как только появится достаточная финансовая основа, союз собирается заняться не только организаторской, но и чисто хозяйственной деятельностью.

**Григорий КОЛОБОВ.**

***МИР УВЛЕЧЕНИЙ***

# СЛЕЗЫ И СМЕХ АЛЕКСАНДРА ИВАНОВИЧА

В Залесье под Сморгонью, где находится бывшее имение композитора М. Огиньского, и в близлежащих деревнях большинство скульптур установленных в парках, клубах, школах, выполнены одним художником—местным жителем Александром Ивановичем Живаевым. Работы его не назовешь выдающимися памятниками культуры, отражают они в основном наше «славное» прошлое. Люди давно привыкли к подобному убранству общественных мест и безразлично взирают на безликие бюсты и фигуры, зачастую не задерживая взгляда. Однако встреча с этим безвестным скульптором запомнилась мне ярче, чем умные беседы в шикарных просторных мастерских его собратьев по цеху. Живаев — художник-инвалид, у него нет правой руки.

...Юношей Саша работал слесарем на железной дороге. Был скромным, даже робким парнишкой. Имел хороший голос, пел. Но больше всего любил он рисовать.

Однажды на работе во время обеденного перерыва он по привычке напрямую через рельсы побежал в буфет. Приближающегося поезда за щитами-сходнями не видел. В первые минуты трагедии он не представлял реально, что же произошло. Не потерял даже сознания. Обхватил левой рукой кровоточащее правое плечо и сам пошел в больницу. Случилось это в 1936 году.

Расставаться с красками юноша не захотел, учился рисовать левой рукой, и через два года его приняли в художественное училище. Учился он увлеченно и за год прошел два курса. Но вот новое испытание. Началась война.

В конце войны Александр женился. В 1944 году жена подарила ему первую дочь, через год — вторую, затем родилась третья, четвертая... Лишь в 1952 году Бог послал сына, но забрал восьмерых детей из двенадцати. Пережил и эти восемь трагедий Живаев.

После войны работал оформителем в художественной мастерской: писал вывески, плакаты, лозунги. Сколько их было в ту пору! Кисть не держалась в руке от усталости. Труден был хлеб художника-инвалида.

— В 1948 году решил вылепить Антонину — первую дочку, — рассказывает Александр Иванович.— Но опыта не было. Не знал тогда, что такое пластилин, хорошая глина.

Эта скульптура ему не удалась — навыка не было, но и опыт не пропал даром. Оставил живопись Александр на время и серьезно занялся скульптурой. Больше всего он выполнил бюстов Ленина и Сталина. Время было такое: гипсовые вожди, застывшие в утвержденной «свыше» форме, заполнили все присутственные места. Лепил их всю жизнь и Александр. Да что об этом сейчас вспоминать? Конъюнктура обеспечивала хороший заработок, приносила достаток и веселье в большую семью Живаевых. Можно ли осуждать за это?

Залесье широко известно тем, что здесь жил Огиньский. Память о нем передается из поколения в поколение. Три скульптуры замечательного композитора выполнил Живаев за годы своей работы, одна установлена в сморгонском клубе, две других выставлены в городском музее. А в самом имении Огиньского скульптуру поставить не догадались, зато воздвигли большой памятник «вождю народов». Долго стоял с простертой рукой на берегу пруда, а когда время пришло, подковырнули да спихнули его в воду... Но «вождь всех времен и народов» не затонул. Нащупал-таки ногами устойчивую почву в иле. Прямо мистика какая-то!

— Александр Иванович, признайтесь, ведь ваша работа по душе? — пытали мы его. Но художник отмалчивался.

— Да что мы все о работе?— говорил он. — Подождите, магазин еще работает, сейчас за бутылочкой сбегаю. Мигом. Радость какая: впервые журналисты приехали...

И смех, и слезы... Как и вся жизнь человека.

**Владимир КАЛИНИЧЕВ.**



**В 9-й средней школе Витебска занимается чуть более тысячи мальчиков и девочек. С нынешнего года здесь открылся класс, где можно будет постичь основы менеджерского искусства. Наиболее способные старшеклассники под руководством преподавателей, а также опытных ученых из педагогического и технологического институтов прямо в стенах «альма матер» занимаются изучением специально разработанной программы.**

**Для ребят также оборудованы прекрасные актовый и спортивный залы, зал ритмики и кинозал, стрелковый тир, лингафонные кабинеты и кабинет информатики.**

**НА СНИМКАХ: семиклассница Марина ПЕТУХОВА вместе с учительницей белорусского языка и литературы Татьяной ПЕТРАЧЕНКО и художником завода имени Кирова Виктором ИВАНОВСКИМ готовят к занятиям учебный кабинет; учитель труда Валерий БУЕВИЧ.**

**Фото А. ЦЕРЛЮКЕВИЧА.**

# В ПАМЯТЬ О СЕВЕРНЫХ КОНВОЯХ

«Северный конвой» — такое название будет иметь региональный экономический центр, создаваемый в Мурманске. Решение о его учреждении принято на днях правление международного неправительственного благотворительного фонда «Вечная память солдатам». «Северный конвой» будет своего рода представительством этого фонда в Заполярной области.

Уже само название центра говорит о его главном предназначении. Оно в том, чтобы всеми доступными средствами служить делу увековечения памяти павших в годы войны и ушедших из жизни в послевоенное время участников героических морских переходов, способствовать укреплению духа братского интернационального сотрудничества, зародившегося в дни суровых испытаний, оказывать реальную помощь и поддержку живущим среди нас ветеранам войны.

9 мая 1990 года в Мурманске во время очередной международной встречи участников союзнических конвоев состоялась торжественная закладка мемориала в честь подвига всех, кто был в составе морских караванов. Тогда же ветераны договорились о необходимости создания «живого» мемориала — проведения регулярных международных встреч потомков ветеранов.

Заботы, связанные с предстоящим строительством Мурманского мемориала, лишь одно, хотя и важное, направление деятельности регионального центра «Северный конвой». Центр намерен активно участвовать в подготовке к 50-летию прихода в СССР первого союзнического морского конвоя. Это был конвой, получивший помимо принятого тогда буквенного обозначения еще и название «Дервиш». Он прибыл в Архангельск 31 августа 1941 года и доставил военные грузы, в которых тогда так нуждался Советский Союз.

К 50-летию этого памятного события центр «Северный конвой» предполагает подготовить и издать книгу об арктических караванах помощи советскому народу в годы войны. Широкое и объективное информирование советской и международной общественности о морских конвоях как об одной из героических страниц в истории второй мировой войны должно стать еще одним из направлений работы регионального центра.

«Северный конвой» поддерживает идею объединения всех живущих в СССР участников арктических конвоев в общесоюзную ветеранскую организацию, аналогичную общественным объединениям «Клуб северная Россия» и другим, действующим в США, Англии, Канаде, Австралии, Новой Зеландии.

Недавно в Мурманской областной газете «Полярная правда» одним из участников союзнических конвоев было высказано предложение — в связи с приближающимся 50-летием со дня прибытия в Советский Союз первого конвоя учредить в СССР памятную нагрудную медаль, посвященную этой дате. Международный фонд «Вечная память солдатам» и его мурманский региональный центр поддерживают это предложение и считают, что такой медалью, если она будет учреждена, должны быть награждены все здравствующие ныне советские и иностранные участники конвоев.

Создаваемый в Мурманске региональный центр «Северный конвой», являясь дочерней организацией фонда «Вечная память солдатам», в то же время не рассчитывает на пожертвования. Центр после его регистрации в соответствии с уставом станет самостоятельной хозрасчетной организацией и будет иметь статус юридического лица. Его деятельность будет регулироваться законодательством СССР о малых предприятиях. В планах центра «Северный конвой»—сооружение памятных знаков, мемориалов, подготовка различных материалов и выпуск продукции с символикой фонда «Вечная память солдатам», устройство аукционов и ярмарок, издательская деятельность.

**Вячеслав ИЩЕНКО.**

*НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ*

# І ГЭТЫМ УСЁ СКАЗАНА...

У 1944-м, калі ў Мінску панаваў ужо хаос адступлення, яго вывезлі немцы ў Германію. Маці, якая прыбегла яго праводзіць, невядома, ці на жыццё, ці на пагібель, у апошнюю хвіліну рашылася, паехала ў белы свет, як у капейку, разам з сынам. Губляць ёй не было чаго: яны жылі толькі ўдваіх, а была надзея: можа дзе па дарозе праз Беларусь удасца збегчы. Ды не ўдалося, іх прывезлі ў Баварыю.

Труну з прахам маці ён некалькі гадоў назад перавёз з нью-йоркскіх могілак на бабруйскія. Прыгадваю яго словы: «Не, завяшчання такога маці мне не давала, але надта ж часта гаварыла пра тое, каб на вечны спачын легчы ў родную зямельку».

А ён сам, Валянцін Жаркевіч?

Сёлета ён зноў прыехаў у Мінск да сяброў сваёй маладосці. Гэта ўжо пяты яго візіт на Радзіму, пачынаючы з 1985-га года. Памятаецца, пазалетась, пры развітанні, я спытаўся ў Валянціна Жаркевіча, што яго цягне кожнае лета сюды, на Радзіму? Мог бы паехаць турыстам у якую цікавейшую краіну.

— Вы самі адказалі на пытанне — Радзіма цягне.

Такіх слоў я нават не чакаў, бо ў той прыезд яго моцна пакрыўдзілі нашы чыноўнікі з АВіРа, незаслужана пакрыўдзілі. І мне здавалася, што ён дасць зарок, больш сюды — ні нагой. Але Валянцін Жаркевіч не з тых людзей, хто чыноўніка атаясамлівае з сваім народам, з усім, што яму дарага тут.

Радзіма... Гэтым словам усё сказана.

Як звычайна, прыехаўшы ў Мінск, Валянцін заходзіць да мяне ў рэдакцыю. І тады за чаем бясконца цячэ наша гутарка. Так было і на гэты раз.

Летась ён не быў на Беларусі. Той год стаў для яго пераломным. Пасля 40 гадоў жыцця ў Амерыцы Валянцін Жаркевіч пераехаў, відаць, назаўсёды з Нью-Йорка ў Варшаву. Пра гэта ён паведаміў мне ў сваіх лістах. І вось цяпер мне хацелася пачуць ад яго самога, чаму ён зрабіў такі крок.

— Вядома, Варшава не Нью-Йорк і тым болей не Парыж. Але справа не ў гэтым,.. — пачуў я ў адказ. — Бачыце, я даўно ўжо хацеў пасяліцца дзе-небудзь у Еўропе. Проста — тут жыць цікавей. Але дзе ў Еўропе? Выбраў Польшчу. З аднаго боку, тут у мяне сваякі. А ў маіх гадах (дзяцей у мяне няма) самае цяжкае — адзіноцтва. І як добра, калі ёсць хтосьці блізкі побач. Ну, а з другога боку, пасяліўшыся ў цэнтры Еўропы, можна лёгка выбрацца ў любую краіну. І часу нямнога забярэ, і дзешавей. Вось білет у Мінск і назад у Варшаву каштаваў мне ўсяго 21 долар. А жыві я ў Нью-Йорку, колькі трэба было б заплаціць? Уяўляеце? Ну, і мабыць самае галоўнае — блізка да родных мясцін.

— У такім разе прабачце за некарэктнае, як цяпер модна ў нас выражацца, пытанне: чаму ж не ў Беларусь? Тут жа ў вас таксама ёсць крэўныя. Здаецца, у Бабруйску?

— Пра гэта я думаў усё жыццё, — каб вярнуцца на старасці год у Беларусь. Тут у мяне і сяброў многа. Але ж у вас не вырашана самае важнае пытанне — пенсія. Сюды маю амерыканскую пенсію не перавядуць. Няма такога пагаднення паміж ЗША і СССР. А то я з усёю душой памкнуўся б сюды. Вашы пустыя магазіны мяне не палохаюць. Што з таго, калі яны поўныя, а ў вас няма за што купіць. Каб была такая магчымасць пераехаць, я выбраў бы Мінск. Бабруйск — не, усё-такі занадта правінцыяльны. А я прызвычаіўся да шумнага жыцця. Тут, у сталіцы, ёсць куды пайсці — тэатры, выстаўкі, канцэртныя залы.

Мінск мне дарагі і тым, што я тут вучы[illegible]ся, помню выпускны вечар 21 [illegible]еня 1941 года і першы дзень вайн[illegible]...

І цяпер першыя яго словы пра Мінск былі прыхільныя, душэўныя. Цешыла яго сэрца, што Мінск выглядае [illegible]цейшым за Варшаву, што пераходы не забіты вулічнымі гандлярамі-спекулянтамі, што людзі мяккія, ветлівыя.

Думаю, што нашаму ўнутранаму чытачу, які сёння зайздросціць гэтай «райскай Амерыцы», так і карціць даведацца, як Валянцін Жаркевіч адважыўся кінуць забяспечаны ўсім Нью-Йорк і перасяліцца ў Варшаву з яе страшнай дарагоўляй. Тыя ж палякі, ды і тысячы нашых беларусаў толькі і бачаць сны пра Захад, многія з іх хоць сёння гатовы кінуць тут усё і выехаць у любую капіталістычную краіну.

Аказваецца, любы медаль мае два бакі. Вось што расказаў мне Валянцін Жаркевіч.

— Не магу сказаць, што ў Нью-Йорку мне жылося бедна. Я працаваў у камерцыйнай фірме, меў і свой прыватны заробак, добрую кліентуру. Але настала пара пайсці на спачын. А на маю пенсію ў Нью-Йорку не пражывеш. Некаторыя ў нас атрымліваюць дзве пенсіі. Гэта значыць, што яны рабілі ў вялікіх кампаніях, дзе ім даецца, акрамя агульнадзяржаўнай, яшчэ і пенсія кампаніі. І на тую, і на другую трэба плаціць узносы, пакуль працуеш. Затое пасля маеш дзве пенсіі. Я працаваў у такой кампаніі, дзе пенсійнага фонду не было. І таму атрымліваю толькі дзяржаўную пенсію, свае 470 долараў. Для Нью-Йорка гэта вельмі мала, жыццё вымагае, прынамсі, удвая болей. Мне толькі кватэра абыходзілася 600 долараў штомесяц.

Але долар гэта не злоты і не рубель, таму Валянціну Жаркевічу нават пры сённяшняй дарагоўлі ў Польшчы, жывецца лепш, чым у Амерыцы. Цяпер я разумею тую прымаўку: вось каб зарабляць на Захадзе, у капіталістаў, а жыць пры сацыялізме. Праўда, сёння ў Польшчы застаўся толькі благі спамін пра сацыялізм, але на долар тут жывецца нішто сабе.

— Я магу жыць па-людску ды яшчэ і эканоміць за год на паездкі за мяжу, — гаворыць новы варшавянін. — Месяц назад я быў у сябра ў Францыі, цяпер вось у Мінску... За тыя грошы, на якія я прыдбаў сабе кватэру ў Варшав[illegible]м, у Нью-Йорку, я мог бы купіць [illegible]ькі дзірку ад абаранка.

Так, усё ў гэтым свеце адноснае, і жыццёвыя магч[illegible]масці — таксама.

— Не ўсюд[illegible]раніцай, у тых жа ЗША, чалавек,які працуе, атрымлівае столькі грошай, каб жыць прыпяваючы, — пераконваў мяне Валянцін Жаркевіч. — Многія атрымліваюць вельмі малыя заробкі і жывуць больш чым сціпла.

Тут наша размова за чаем міжволі перакінулася на нашы сённяшнія праблемы, і я пачуў цікавыя разважанні майго суайчынніка.

— Роўнасці, якую ў вас прапаведавалі 70 год, на самай справе няма. Роўнасць пярэчыць самой натуры чалавека, яго існасці. Адзін родзіцца здаровым — другі хворым, адзін прыгожы — другі пачвара, адзін моцны — другі слабы, адзін працавіты — другі гультай. Чаму яны павінны быць роўныя?..

Слухайце, я ўсё жыццё абараняў у спрэчках ваш «справядлівы лад», дзе ўсе роўныя. А цяпер бачу, што памыляўся. Мне здаецца, вам таксама патрэбна прыватная ўласнасць, каб кожны меў магчымасць праявіць сябе, паказаць, на што ён здольны. Каб не апускаліся рукі ў працавітага і руплівага чалавека.

Валянцін Жаркевіч быў у Мінску якраз у пару «тытунёвых бунтаў», калі раззлаваныя курцы, што не маглі купіць у магазінах нават махоркі, выходзілі на вуліцы, перакрывалі рух і мітынгавалі, патрабуючы цыгарэт. Як і кожнаму чалавеку, якому неабыякавы лёс свайго народа, яму было прыкра і балюча бачыць і пустыя нашы магазіны, і даведзеных ледзь не да адчаю людзей. І таму многае ў нашай перабудове яму было незразумела. Было і засталося.

— Паслухайце, і пры Брэжневе ў вас былі такія ж чахлыя калгасы, а ўсё-такі ў магазінах нешта было... Чаму ў вас усе чагосьці чакаюць, а ніхто нічога не выконвае? Замест таго, каб працаваць, у вас бастуюць ды мітынгуюць. Ад гэтага ні хлеба, ні шкарпэтак не прыбудзе.

Што мог я адказаць майму суайчынніку, які, ведаю, і на лета прыедзе на сваю дарагую і гаротную Радзіму? Толькі паабяцаць, што за год у нас нешта зменіцца, бо абяцанні сёння ў нас—самы танны і даступны кожнаму тавар. Але ведаю: Валянціну Жаркевічу, як ўсім нам, лягчэй ад гэтага не стане.

**В. КРАСЛАЎСКІ.**

*ДА 500-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ*

# ТРЫ БІБЛЕЙСКІЯ ВОБРАЗЫ

**УРЫВАК З КНІГІ У. КОНАНА «БОСКАЯ І ЛЮДСКАЯ МУДРАСЦЬ», ЯКАЯ СЁЛЕТА ВЫХОДЗІЦЬ У «БІБЛІЯТЭЧЦЫ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ».**

**Кнігі беларускага асветніка — першае ў гісторыі ўсходнеславянскай культуры навукова-папулярнае выданне Бібліі. На жаль, пакуль што і апошняе. Бо і сёння мы не маем ні фундаментальнага навуковага, ні папулярнага, народнага выдання гэтага літаратурнага твора, а больш дакладна — цэлай бібліятэкі, паяднанай не толькі агульным пераплётам, але і ў сакральным сэнсе.**

**У прадмовах да біблейскіх кніг і анатацыях да іх раздзелаў Ф. Скарына пераказаў іх сюжэты, ахарактарызаваў іх асноўных герояў. Былі ў яго свае любімыя вобразы — шматпакутны Іоў, цар Саламон, цар Давід, гераічная Эсфір і чыстая сэрцам Руф. Сярод новазапаветных аўтараў ён выдзеліў евангеліста Луку, апостала Паўла; сярод евангельскіх вобразаў — Ісуса Хрыста і Багародзіцу.**

**Гэтую частку духоўнага свету першадрукара звычайна абмінаюць скарыназнаўцы. Тут мы спынімся толькі на гісторыі трох, бадай што, самых драматычных герояў Бібліі.**

## ТРАГЕДЫЯ АВЕСАЛОМА

У прадмове да біблейскай старазапаветнай 2-й кнігі Царстваў (1518) Ф. Скарына сярод іншых падзей прыпамінае бітву другога цара Ізраільска-Іудзейскай дзяржавы Давіда (канец XI — першая палова X ст. да н. э.) са сваім сынам Авесаломам. Мікраартыкул пра гэтага трагічнага героя старажытнай гісторыі, на жаль, не ўвашоў у энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына і яго час». А між тым вобраз Авесалома здаўна прыцягваў увагу паэтаў, мастакоў і драматургаў, асабліва ў перыяды Рэнесансу і класіцызму. І ўжо ў наш час, недзе ў 60—70-х гадах, на студыі Галівуда быў створаны суперфільм «Авесалом, Авесалом...».

Авесалом быў трэцім сынам Давіда ад адной з яго жонак Маахі, дачкі гесурскага цара. Гесур, або Арам-Гешур,—невялікая вобласць на тэрыторыі сучаснай Сірыі. У эпоху цара Давіда гэта было невялікае суседняе з Ізраілем царства. Паводле біблейскай аповесці, Авесалом — найпрыгажэйшы муж ва ўсім царстве, «ад падэшвы ног да верху галавы не было ў яго ніякага недахопу». Усе любаваліся ім, асабліва яго пышнымі доўгімі валасамі. У Авесалома была такая ж прыгожая і любімая ім родная сястра Фамар, таксама вядомая з паэтычных увасабленняў у класічным мастацтве.

І вось паршынец цара Давіда і наследнік яго прастола Амнон (брат Авесалома па бацькоўскай, але не па матчынай лініі), ахоплены гарачым, толькі пачуццёвым каханнем да Фамар, нават захварэў ад свайго палу. Паслухаўшыся парады свайго хітрага сябрука, Амнон пайшоў на ашуканства, каб сілаю завалодаць Фамар: ён прытварыўся хворым і папрасіў бацьку прыслаць Авесаломаву сястру, каб тая згатавала яму абед. Не зважаючы на маленні Фамар, Амнон згвалціў сваю сястру па бацькоўскаму роду і адразу ж адчуў да яе нянавісць. На просьбу ягонай ахвяры ўзяць яе за жонку (па законах таго часу брат мог ажаніцца з сястрой ад няроднай маці) Амнон загадаў сваім слугам прагнаць Фамар.

Авесалом даведаўся пра знявагу сястры, забраў яе ў свой дом і задумаў адпомсціць нягодніку. Іх бацька, цар Давід, цяжка перажываў злачынства Амнона, аднак не пакараў яго, бо моцна і бяздумна любіў свайго распусніка-сына. Праз два гады Авесалом наладзіў вялікі банкет, паклікаўшы на яго ўсіх сваякоў, у тым ліку Амнона. І як толькі «развесялілася сэрца Амнона ад віна», ён быў тут жа за сталом забіты па загаду Авесалома, бо ў сэрцы ягоным даўно выспявала помста.

Цар цяжка перажываў гэтую бяду, але не помсціў Авесалому, які з невялікай дружынай знайшоў прыстанішча ў свайго дзеда — цара гесурскага. Праз тры гады яму дазволілі вярнуцца на радзіму, аднак спачатку не дапусцілі да царскага двара. Пазней адбылося прымірэнне Авесалома з яго царственным бацькам. Але, як сын паланянкі, Авесалом, відаць, не быў прызнаны ў якасці наследніка царскага трона.

Тым часам абаяльнасць, прыгажосць, ветлівасць і дэмакратызм садзейнічалі папулярнасці Авесалома, вакол яго пачалі гуртавацца незадаволеныя, і ён выкарыстаў гэта, каб узмацніць сваё становішча пры двары, стварыў уласную дружыну і ў рэшце рэшт падняў мяцеж, схіліўшы на свой бок значную частку суайчыннікаў. Цар з кучкай верных яму людзей пакінуў свой дом і хаваўся ад паўстанцаў у пустыні. Царства раскалолася: адны воіны прысягнулі Авесалому, другія ж сабраліся вакол Давіда. Рашучая бітва адбылася ў лесе за Іарданам-ракою: войска Авесалома пацярпела паражэнне, а сам ён, уцякаючы ад праследавання, заблытаўся доўгімі валасамі ў корані дуба, быў забіты военачальнікам насуперак загаду цара не ўзнімаць рукі на жыццё яго сына. Авесалома пахавалі ў глыбокай лясной яме, над магілай насыпалі вялізную кучу каменняў. У дні свайго кароткага царствавання Авесалом паставіў сабе помнік, спаслаўшыся на тое, што няма ў яго сыноў, якія б захавалі памяць аб ім. Цар жа Давід доўга плакаў ля варот свайго дома, усклікваючы: «Авесалом, сын мой, сын мой Авесалом! Чаму ж не наканавана мне памерці замест цябе, Авесалом, сын мой, сын мой!»

Паводле тлумачэння Агады (той часткі Талмуда, у якой развіваюцца рэлігійна-этычныя ідэі Бібліі), вобраз Авесалома стаў сімвалам небяспечнага славалюбства, несыноўніх адносін да бацькоў і марнасці надзеі на прыгажосць. Як сведчаць біблеісты, у даўнія часы яўрэйскія равіны загадвалі бацькам прыводзіць непаслухмяных дзяцей да помніка Авесалому, каб яны ўспаміналі яго гісторыю і кідалі каменні на яго магілу.

Праваслаўныя тэолагі амаль не закранулі гэтай тэмы, пра што сведчыць адсутнасць адпаведных тлумачэнняў у шматтомнай «Толковой Библии», выдадзенай у 1904—1913 гадах пад рэдакцыяй А. П. Лапухіна і яго паслядоўнікаў. Нашы гісторыкі, відаць, лічаць аповесць пра Авесалома чыста мастацкім творам, бо забыліся пра яго ў шматтомнай «Исторической энциклопедии». Адным словам, гэты трагічны сюжэт і сапраўды шэкспіраўскі па моцы страсцей вобраз паўстанца абыдзены ў нашай мастацкай і навуковай літаратуры.

## ШМАТПАКУТНЫ ІОЎ

У беларускага асветніка былі свае любімыя кнігі, і сярод іх, бадай, ці не першае месца займала аповесць пра пакуты праведнага Іова — адзін з самых трагічных літаратурных твораў старажытнага свету. У натхнёных словах прамовы да «Книги святого Иова» Ф. Скарына тлумачыў яе змест сімвалічна — у сэнсе прарочага прадбачання трагічнай драмы станаўлення хрысціянства і, шырэй, — трагедыі чалавечага духу.

*УСЕСАЮЗНЫ КОНКУРС ЧЫТАЧОЎ*

# СТО ЛЕПШЫХ КНІГ 1989 ГОДА

Аўтарытэтны савецкі штотыднёвік «Книжное обозрение» падвёў вынікі ўсесаюзнага конкурсу чытачоў і назваў сто лепшых кніг мінулага года. Такая позняя публікацыя выклікана процідзеяннем кіраўніцтва Усесаюзнага таварыства «Кніга» — яно не рызыкнула (справа была ў маі) узнагародзіць прызам чытацкіх сімпатый Аляксандра Салжаніцына за кнігу «Архіпелаг ГУЛАГ. 1918—1956».

З пункту гледжання строгай навуковай думкі вынікі конкурсу, напэўна, можна падвергнуць сумненню. Але бясспрэчна, што агульную карціну чытацкіх прыхільнасцей у СССР ён дае правільна.

На першае месца выйшла кніга папулярнага барда, паэта і акцёра Уладзіміра Высоцкага «Паэзія і проза». На другое — кніга аб У. Высоцкім французскай актрысы Марыны Уладзі «Уладзімір, ці Перапынены палёт».

Папулярнасць Высоцкага ўсенародная. Яго песні, якія бічуюць хлусню, крывадушнасць, высмейваюць уладных людзей, душыцеляў вольнай думкі, называюць непрыемныя рэчы сваімі сапраўднымі імёнамі, сталі гімнам моладзі, атрымалі прызнанне як інтэлігенцыі, так і рабочых.

З цяперашніх рускіх літаратараў у першай дзесятцы толькі адзін пісьменнік — Аляксандр Салжаніцын (5 месца)— «Архіпелаг ГУЛАГ. 1918—1956». На трэцім месцы — кніга Р. Шцільмарка «Наследнік з Калькуты», якая атрымала шырокую вядомасць. Далей — Аляксандр Дзюма «Граф Монтэ-Крыста», Валянцін Пікуль «Нячыстая сіла» і «Фаварыт», Шарлота Брантэ «Джэн Эйр», Васілій Гросман «Жыццё і лёс», Барыс Пастэрнак «Доктар Жывага».

Па колькасці кніг-прызёраў у лідэры выйшаў пісьменнік Валянцін Пікуль, які нядаўна памёр, — 6 кніг (6, 7, 17, 38 56, 98 месцы). За ім ідзе Аляксандр Дзюма — 5 кніг (4, 15, 24, 75, 87 месцы). Прызёр мінулагодніх конкурсаў — кніга Анатолія Рыбакова «Дзеці Арбата» — на 13 месцы.

Сярод аўтараў ста кніг няма ніводнага з Лацінскай Амерыкі, Азіі, Афрыкі. Нават, здавалася б, такі папулярны ў СССР літаратар, як Гарсіа Маркес, у спіс ста не ўвайшоў. Не названы ў ліку лепшых і кнігі Кафкі. На «чорным» рынку яны каштуюць надзвычай дорага, але, відаць, масавы чытач авангард не ўспрымае.

Вынікі конкурсу пераканаўча паказваюць, што цікавіць сённяшняга чытача. Гэта, па-першае, гісторыя. Далёкае мінулае і мінулае зусім нядаўняе. Гэта палітычны і звычайны дэтэктыў, фантастыка, прыгоды. Вывад таксама дастаткова адназначны: чытача прыцягвае цікавае, што з'яўляецца галоўным крытэрыем.

Доўгі час савецкі чалавек не меў права выбару, вымушаны чытаць практычна толькі тое, што адабралася высокім партыйна-ўрадавым начальствам. Сёння ён атрымаў права выбару і, натуральна, звярнуў увагу на самае цікавае і захапляючае, на тое, што яго па-сапраўднаму хвалюе, на тое, што яму па-сапраўднаму хочацца чытаць.

Сур'ёзныя, павучальныя, выхаваўчыя кнігі сёння ўжо не ў модзе. Гэтаму, верагодна, садзейнічае і напружаная атмасфера, што пануе ў грамадстве. Людзі імкнуцца адысці хаця б на нейкі час ад клопатаў дня. Але нават улікам усяго сказанага давочна — будучыня за цікавай кнігай. Ніякая ідэя, ніякія самыя разумныя меркаванні не прыцягнуць ўвагу свабоднага чытача, калі яны не будуць цікавымі, не будуць увасоблены ў адпаведную форму.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

## МОВАЙ СПРАДВЕЧНАЙ МУДРАСЦІ

«Плямёны ў сваяцтве, шануецца род» — думка актуальная, ці не праўда? Належыць яна вялікаму туркменскаму паэту XVIII стагоддзя Махтумкулі, а пераклаў паэтычны радок на беларускую мову Уладзімір Караткевіч.

Самыя багатыя россыпы жамчужын народнай мудрасці знойдуць дапытлівыя чытачы на старонках выпушчанага выдавецтвам «Юнацтва» томіка, у якім сабраны лепшыя творы туркменскай літаратуры, пачынаючы з глыбокай старажытнасці і да нашых дзён. На беларускай мове ўсе яны выдадзены ўпершыню. Аб узроўні ж перакладаў можна меркаваць па іх аўтарах — Максім Танк, Алесь Жук, Уладзімір Паўлаў... Акрамя вершаў, паэм, апавяданняў, у зборнік увайшлі казкі, прыказкі і прымаўкі.

## АНТАЛОГІЯ ПАЭЗІІ

Цікавае выданне заходнебеларускай паэзіі «Ростані волі» пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Пад адной вокладкай сабраны вершы Гальяша Леўчыка і Максіма Танка, Валянціна Таўлая і Міхася Васілька, Міхася Машары і Ларысы Геніюш... «Ростані волі» — самая поўная з усіх анталогій заходнебеларускай паэзіі, якія раней выходзілі.

Укладальнік і аўтар прадмовы да кнігі — вядомы гісторык літаратуры У. Калеснік.

## АЎКЦЫЁН «РЭТРА»

Творы жывапісу і скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — посуд, габелены, шкатулкі і многае іншае — былі выстаўлены ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР ... для продажу. Асеблівасць аўкцыёна «Рэтра» заключалася ў тым, што на яго прадставілі свае рэчы прыватныя асобы. З 145 лотаў было прададзена каля 50 на суму амаль 22 тысячы рублёў.

Першы вопыт для Мастацкага музея аказаўся ўдалым, таму тут вырашана працягваць аўкцыёны. У канцы года плануецца выстаўка-продаж твораў беларускага, а ў сакавіку — узбекскага мастацтва.

*ЗНАЁМЦЕСЯ: «ЗЕМЛЯКІ»*







Неяк вечарам гадоў пяць назад да мяне дадому пазваніў Анатоль Кляшчук і між іншым, але з чуйнай усхваляванасцю запытаў, як я разумею слова «зямляк». Вядома ж, пытанне было не так сабе. Анатоль — фотамайстар дасужы і надзвычай працавіты. Таму я меў усе падставы падтрымаць Анатоля і заадно павіншаваць з пачаткам задуманай серыі.

Чакаць плёну доўга не давялося. Першыя напрацоўкі, якія неўзабаве паказаў мне Анатоль, ашаламілі. «Ты адкрыў залатую жылу!» — не сцярпеў я. А на старонках беларускай «Сельской газеты» з цягам часу з'явілася свежая, як скіба раллі, рубрыка «Землякі». Штораз яе аўтар нібы прызнаваўся ў сваёй шчырай любві да людзей. Скрозь падмячаў мудрасць і годнасць сваіх герояў. І абавязкова — іх нацыянальную адметнасць. Асабліва ўлюбёна расказваў пра самабытныя таленты. Не прамінаў і дзяцей, заўважаў іх адкрытасць, шчырасць, даверлівасць. Здымаў знакамітых, вядомых на ўсю краіну людзей і тых, хто жыве непрыкметна, ціха пры сваіх адвечных каранях. Не хаваў і болю за чужы знявечаны лёс. Не толькі здымаў, але і запісваў у блакнот, каб словам дапоўніць фатаграфіі, надаць ім большую дакументальнасць.

Ён смела збочваў з выбітых бальшакоў заштампаванай газетнай фотапрадукцыі на пясчаныя, камяністыя ды гразкія дарогі правінцыяльнага жыцця. Скрозь — народ, людзі, аблічча, лёсы. Адным словам, землякі, якія навокал — як карасёў у сажалцы, толькі глядзячы, хто ты сам: як думаеш, як бачыш, як слухаеш.

Анатоля здавён вабяць кірмашы, народныя святы, самотныя імгненні людской жалобы. Праца сялян—гэта праца яго продкаў-слуцакоў, праца яго бацькі і маці. Ён так надзіва хораша бачыць плён працы ды' яе творцу. І сам нагадвае мне аратага, які ідзе за плугам і час ад часу спыняецца, каб азірнуцца на зробленае, каб паслухаць у небе жаўранка. Анатоль Кляшчук спыняе імгненні, каб людзі маглі асэнсаваць іх, каб жыццё рухалася наперад у адпаведнасці з няпісанымі законамі гармоніі, адвечнага ладу.

Здаецца, у згодзе з гэтымі законамі ён склаў і сваю першую кніжку-альбом, што мае выйсці ў бліжэйшыя годы ў выдавецтве «Беларусь». Назва яе загадзя вядома — «Землякі».

**Валерый ДРАНЧУК.**

**НА ЗДЫМКАХ: работы з будучай кнігі. «Зямля бацькоў — святая зямля» (шмат гадоў амерыканскі беларус Данчык марыў пра сустрэчу з Бацькаўшчынай); «Чаму ж нам не пець...»; «Усемагутная Дзева Марыя, дапамажы Мар'ям з вёскі Мар'іна і ўсім пакутнікам ад чарнобыльскай навалы».**

*Ад рэдакцыі: мяркуючы, што кніга «Землякі» можа стацца вельмі жаданай для многіх нашых замежных чытачоў, пакідаем адрас выдавецтва, куды належыць падаваць заяўкі як ад прыватных асоб, так і ад устаноў, грамадскіх арганізацый:*

*220600, г. Мінск, праспект Машэрава, 11, «Белкніга».*

*НАТАТКІ БІЁЛАГА*

# ПАД РАЗВІТАЛЬНЫЯ КРЫКІ ЖУРАВОЎ

Чырвань лістоты і развітальныя крыкі жураўоў — найбольш характэрныя рысы верасня. Дрэвы ненадоўга набываюць дзіўнае непаўторнае ўбранне. І з кожным днём яно становіцца ўсё больш яркім і разнастайным. Быццам у золата апранаюцца бярозы, пазваньваюць на ветры чырвоныя кроны асін, кружаць, ападаючы, медна-чырвоныя разныя лісты клёну. Восеньскі лес «гарыць», пераліваючыся ў скупаватых сонечных промнях яркімі і выразнымі фарбамі. Іх яшчэ больш дапаўняюць гронкі каліны і рабіны.

Цягнуцца і цягнуцца да поўдня касякі гусей, жураўоў, качак.

Трубнае жураўлінае курлыканне міжволі навявае сум і журбу. Іх поклічы зусім не такія, якія чулі мы ўвесну. Замест радасці ў голасе — смутак расставання і адчуванне працяглай разлукі з радзімай.

У верасні прырода нібыта знаходзіцца на раздарожжы. Яна ўпарта не хоча развітвацца з летнім цяплом, а восень настойліва крадзецца да яе прахаладай і першымі замаразкамі. Яшчэ ва ўсю цвіце на лясных палянах верас, радуюць вока многія іншыя восеньскія кветкі — рамонкі, крываўнік, браткі, яшчэ ярчэй расцвітаюць блакітныя суквецці цыкорыя, мышынага гарошку, другі раз цвіце лотаць, не здаецца надыходзячым халадам асенні лаганец. І ў той жа час пачынаецца лістапад.

Адным з першых скідваюць лістоту ліпа, бяроза, клён. За імі — асіна, вяз, вольха. Асыпаюцца кусты. І ўвесь гэты набор мяккай лістоты падае на зямлю, утвараючы суцэльны дыван, поўнасцю ўсцілае лясную глебу мяккім стракатым пакрывалам, нібыта ўхутваючы яе напярэдадні зімы.

Цяпер любога звярка па шоргату пачуць можна. Хоць мышка прабяжыць, хоць вавёрка на зямлю спусціцца. Лістота шамаціць гучна, тут жа выдае іх месцазнаходжанне. Хоць сядзі смірненька і не бегай зусім. Але адседжвацца няма калі. Самы час папоўніць недахоп зімніх запасаў. Апошнія дні нарыхтовак засталіся. Спяшаецца вавёрка, мышы і вожыкі цягаюць у патаемныя месцы грыбы, жалуды, арэхі, збіраюць насенне і лясныя плады. А той-сёй нават дробных жывёлін у прымітыўных «халадзільніках» складвае. Ласка, гарнастай хаваюць прыпасы ў земляныя падвальчыкі, совы—у дуплы.

Грунтоўна рыхтуецца да зімы барсук—чысціць, прыводзіць у парадак сваю з мноствам адноркаў падземную «кватэру», цягае ў яе сухое лісце, рыхтуе зручную мяккую пасцель, дзе ўсю зіму потым будзе валяцца ў паўдрымоце. Гэтаксама дзейнічае і тапатун-вожык. Начапляе на свае іголкі сухія лісцікі і цягне да сябе ў нару. А мядзведзь заняты пошукам падыходзячага для бярлогі месца. Класціся ў старую бярлогу яму не даспадобы, вось і туляецца па лесе, выглядвае патаемнае месца, дзе зручней уладкаваць яе, каб залегчы пазней на спячку.

А ў зайца зусім яшчэ нядаўна нарадзіліся зайчаняты. Гэта іх трэці ў гэтым сезоне прыплод. Нават вырасці як след да зімы не паспяваюць — худыя, адна вушастая галава ды ногі. Іх так і называюць — лістападнікі.

Паступова знікаюць насякомыя. Яны таксама хаваюцца ў надзейныя зімовыя сховішчы. Не ўбачыш цяпер яркіх дзённых матылёў, машкары. Толькі прамільгне іншы раз адзінока ў пагодлівы дзянёк крапіўніца ды праляціць над гладдзю вады запозненая страказа.

У лесе даспяваюць апошнія яго дары. Пацямнелі і вылушчыліся арэхі. Гатовыя да ўжывання плады на лясных ягадных дрэвах — каліне і рабіне. Трапляюцца познія брусніцы. І вядома ж — гэта перыяд збору журавін, галоўнага прыроднага багацця верхавых балотаў. Ягады іх пругкія, утрымліваюць процігніласныя рэчывы і нават у свежым выглядзе могуць захоўвацца да дзевяці месяцаў. А якія цудоўныя прыгатаваныя з іх кісялі, варэнне, выкарыстоўваюцца журавіны для вырабу віна і сокаў.

Адляцеўшых у паўднёвыя раёны птушак змяняюць іх больш паўночныя сародзічы. Адкачоўваюць да нас рагатыя жаваранкі, уюркі, пуначкі. Падоўгу затрымліваюцца на вадаёмах пералётныя паўночныя качкі. Скарыстоўваючы апошнія ясныя дзянькі, вадаплаўныя дапаўняюць свой тлушчавы баланс і трымаюцца на вадаёмах да самага іх замярзання. А некаторыя і на зімоўку застаюцца. Толькі перабіраюцца тады бліжэй да месцаў дзейнасці чалавека, на ваду незамярзаючых пратокаў ля плацін, млыноў, шлюзаў.

К канцу месяца ў лесе становіцца зусім ціха. Толькі пасвістваюць зрэдку сініцы і каралькі, ды нагадае аб сабе сваім барабанным стукам дзяцел.

Шукаюць належныя сховішчы для зімоўкі рэптыліі і земнаводныя. Жабы забіраюцца ў норы і пад карані дрэваў. Яшчаркі і гадзюкі знаходзяць прытулак у дуплах паваленых гнілых дрэў.

Перабіраюцца «на зімнія кватэры» і водныя насельнікі. Рыбы збіваюцца чародамі, ідуць на глыбокія месцы — у зімавальныя ямы, асабліва акуні, плотка, яршы. Туды ідзе і шчупак, які харчуецца імі. У зацягнутым ціннай віры пагружаецца ў сонны стан сом. Жыццёвыя рытмы ў жывёльным свеце прыкметна затухаюць.

**Вячаслаў СТОМА,**
**біёлаг.**

*ЗАХАПЛЕННІ*



Хто адмовіцца ўпрыгожыць свой дом такімі арыгінальнымі кветкавымі кампазіцыямі, якія дэманструюць члены клуба «Незабудка» навукова-вытворчага аб'яднання «Планар»!

«Як яны ствараюцца, дзе можна купіць?»—менавіта гэтыя пытанні часцей за ўсё гучалі на выстаўцы «Свет нашых захапленняў», што праходзіла на ВДНГ БССР, дзе былі прадстаўлены работы самадзейных мастакоў. Для задавальнення попыту на арыгінальныя вырабы пры клубе «Незабудка» створаны цэх надомнай працы «Прыгажосць». Да работы ў цэху залучаюцца жанчыны, якія знаходзяцца ў адпачынку па догляду дзіцяці, пенсіянеры—словам, усе, хто захоплены стварэннем кветкавых кампазіцый. Хобі можа стаць для іх і адной з крыніц даходу.

НА ЗДЫМКАХ: ініцыятары стварэння і актыўныя работніцы цэха «Прыгажосць» (злева направа) Зінаіда КАЗЛОЎСКАЯ, кіраўнік цэха Наталля МАТВЕЕВА, Таццяна БЕЛАПОЛ і Валянціна КРАЎЦОВА; такія кветкавыя кампазіцыі рыхтуюць у цэху на продаж.

Фота Ю. ПАЎЛАВА.

*СПОРТ*

Завяршылася турнэ хакеістаў НХЛ каманд «Манрэаль Канадзіенс» і «Мінесота Норд Старз» у СССР. Лік 5:3 на карысць савецкіх клубаў. У адрозненне ад мінулых гадоў заакеанскія спартсмены не змаглі выйграць ніводнай сустрэчы ў лідэраў першынства краіны: уступілі маскоўскім ЦСКА, «Дынама», «Спартаку» і «Крылам Саветаў».

Працягваючы хакейную тэму, адзначым упэўненую гульню ў чэмпіянаце СССР у апошніх турах мінскага «Дынама». Яно перамагло ў гасцях кіеўскі «Сокал» — 6:5, а дома — яраслаўскае «Тарпеда» — 5:1. Паспяховае выступленне беларускіх спартсменаў прыцягнула ўвагу замежных менеджэраў. І вось апошняя навіна: дынамаўцы Дзмітрый Ярастаў і Ігар Бубеншчыкаў запрошаны гуляць за чэхаславацкі клуб «Банік».

Прыемная навіна прыйшла з Югаславіі. Шэсць беларускіх спартсменаў удзельнічалі ў чэмпіянаце Еўропы сярод юніёраў па кулявой стральбе. Залатыя медалі ў асабістым і ў камандным заліку заваяваў мінчанін Дзмітрый Анісевіч. У стральбе з вінтоўкі ён устанавіў сусветны рэкорд. «Золата» ў камандным заліку дасталася Ганне Шыцік, Вользе Міранові, Сяргею Юрусаву. Трэцяе месца заняў Анатоль Мажджэр. Як бачым, беларускія спартсмены выступілі дастойна.

Не можам не парадавацца за мінчаніна Віталя Шчэрбу. Як метэор, уварваўся ён у эліту айчыннай і сусветнай гімнастыкі. Пераможца Гульняў добрай волі, прызёр сусветнага першынства, а нядаўна заваяваў званне абсалютнага чэмпіёна краіны. Наогул, гімнастыка ў Беларусі знаходзіцца сёння на пад'ёме: фактычна ні адно першынство, ні адзін буйны міжнародны турнір не абыходзіцца без удзелу нашых спартсменаў. І яны, як правіла, становяцца пераможцамі ці займаюць прызавыя месцы.

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

**БУЛЬБА, ЗАПЕЧАНАЯ З КАНОПЛЯМІ**

**Адварыць у шалупінні бульбу, абабраць, нарэзаць кубікамі і абсмажыць. Змяшаць з нашаткаванай і абсмажанай цыбуляй, тоўчанымі канопліямі і пасаліць. Пакласці ў каструлю, дабавіць алей і запячы ў духоўцы.**

**12 бульбін, 5 сталовых лыжак алею, 3 цыбуліны, 0,5 шклянкі тоўчаных каноплі, соль.**

**БУЛЁН З ВУШКАМІ**

**Зварыць празрысты мясны булён і падаць з вушкамі.**

**ВУШКІ**

**Замясіць цеста на кіслым малацэ з дабаўленнем соды, яйка і цукру, тонка раскачаць, разрэзаць на ромбікі. Праціснуць канцы ромбікаў злучыць і зашчыпаць. Вушкі выпячы ў духоўцы на бляссе, змазанай тлушчам.**

**2 шклянкі мукі, 1 яйка, 0,75 шклянкі кіслага малака, 1 сталовая лыжка цукру, 0,5 чайнай лыжкі соды.**

**АЛАДКІ БУЛЬБЯНЫЯ ПА-МІНСКУ**

**Абабраную бульбу нацерці на тарцы, пасаліць. Падрыхтаваную масу выкласці лыжкай у выглядзе аладкі на моцна разагрэтую патэльню і абсмажыць з абодвух бакоў. Гатовыя аладкі пакласці ў каструлю, змазаную маслам, перакласці іх свіным фаршам, запраўленым соллю, перцам, дробна насечаным часнаком і паставіць у духоўку на 15—20 мінут.**

**12 бульбін, 2 сталовыя лыжкі алею, 2 сталовыя лыжкі сметанковага масла, соль.**

**Для фаршу: 400 грамаў свініны, 4 зубкі часнаку, перац, соль.**

**КАЎБАСА ДАМАШНЯЯ З ГРЭЦКАЙ КАШЫ**

**Грэцкія крупы перабраць, прамыць і злёгку падсмажыць, памешваючы на патэльні. У кіпячую ваду дабавіць соль, усыпаць крупы і, зрэдку памешваючы, варыць да загусцення.**

**Пасля гэтага каструлю закрыць крышкай і паставіць у слаба нагрэтую духоўку для ўпрэвання. Гатовую кашу запраўіць цыбуляй, падсмажанай на сале, перамяшаць і запоўніць ёю свіную кішку.**

**Падрыхтаваную каўбасу абсмажыць і падаць у гарачым выглядзе, паліўшы маслам.**

**2 шклянкі грэцкіх круп, 3 шклянкі вады, 2 сталовыя лыжкі масла, 200 грамаў сала, 1 цыбуліна, 50 сантыметраў свіной кішкі, соль.**



**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44, ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 1244